Жыве Беларусь!




# Родная ніва


Газета ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Заснавана ў красавіку 1918 года

2000
7
ЧЭРВЕНЯ
СЕРАДА
№ 44 (9531)


## Вышэйшая школа: час глядзець у будучыню

Тактыка развіцця вышэйшай школы ў нашай рэспубліцы стала вызначальнай тэмай сустрэчы Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі з рэктарамі ВНУ, кіраўнікамі міністэрстваў і ведамстваў, Адміністрацыі Прэзідэнта, Нацыянальнай Акадэміі навук і прадстаўнікамі мясцовай улады. Яна адбылася 31 мая ў Мінску. У сваім дакладзе кіраўнік нашай дзяржавы сфармуляваў асноўныя праблемы, якія стаяць цяпер перад усёй сістэмай адукацыі. Гэта і неабходнасць узняцця ўзроўню падрыхтоўкі ў школе, і праблема медалістаў, палавіна якіх пры паступленні ў ВНУ не вытрымлівае конкурс. Есць вялікія прэтэнзіі да эфектыўнасці цяперашняй сістэмы ацэнкі ведаў: тэсціраванне абітурыентаў абавязкова павінна змяніць экзамены, лічыць кіраўнік дзяржавы. Стварэнне механізмаў прафесійнай арыентацыі, наладжванне сістэмы размеркавання маладых спецыялістаў, упарадкаванне сістэмы платнай адукацыі — гэтыя і многія іншыя пытанні, на думку Аляксандра Лукашэнкі, патрабуюць хутчэйшага вырашэння. Бо ў канчатковым выніку, усё гэта адбіваецца на ўзроўні вышэйшай школы Беларусі. А наша краіна не можа дазволіць сабе ўкладваць грошы ў штонебудзь без належнай аддачы, падкрэсліў Прэзідэнт.

## Клічуць сенажаці!

Мінулая зімоўка выдалася не з лёгкіх для грамадскага статку. Прычына адна — мала назапасілі кармоў.

Цяпер важна арганізавана пачаць сенакашэнне сёлета. Травастой дасягнуў сваёй спеласці. Пра гэта вялася размова на вытворчай нарадзе, якая прайшла ў райвыканкаме. Як зазначыў кіраўнік мясцовай вертыкалі У.В.Канавалаў, для гэтай справы трэба выкарыстаць усе магчымасці. На дапамогу вяскоўцам прыедуць рабочыя з прамысловых прадпрыемстваў горада.

У большасці гаспадарак падрыхтаваны для запаўнення адпаведнай прадукцыяй сянажныя траншэі і палевы для захоўвання сена.

Механізаваны атрад па нарыхтоўцы кармоў, які створаны ў райсельгаспрамтэхніцы, прыступіў да работы. Скошаны дзесяткі гектараў травы на сенаўгоддзях.

Т.ВІШНЕЎСКІ.

## Маланка адным разрадам забіла 39 бычкоў

Маланка адным разрадам забіла 39 бычкоў у племсаўгасе "Высакоўскі". Здарылася гэта пад вечар 30 мая. Ля вёскі Яноўка на летняй пашы знаходзіліся звыш сотні жывёлін з мясцовай фермы. Калі пайшоў дождж, бычкі збіліся ў кучу. У цэнтр яе і ўдарыла маланка. Ад разраду загінула 39 бычкоў.

## Калі будзе клімавіцкая вапна?

Дырэктар камбіната будматэрыялаў Пётр Трубкін значную частку рабочага часу праводзіць у камандзіроўках у Мінск.

Галоўнай мэтай кіраўніка застаецца фінансавая праблема. Як ён паведамляе, частка выдзеленых сродкаў павінна ў хуткім часе быць пералічана. Таксама разглядаецца пытанне аб выдзяленні яшчэ 200-300 мільёнаў рублёў для пуску вапнавага цэха прадпрыемства.

Увогуле ж, для таго, каб ён дзейнічаў, трэба 100 чалавек. Засталіся ж у актыве былога калектыва цэха амаль адны жанчыны. Неабходна правесці і перанавучэнне людзей — двух ІТРаўцаў, слесараў, машыністаў. А вапну вельмі чакаюць.

Першаступеннай задачай застаецца пуск першай печы.

М.ГЛУЗДОЎ.

Людзі вёскі

## Яго вылучыла пасяўная

Механізатар Аляксандр Пятровіч Міхеенка названы ў ліку шасці лепшых механізатараў племзавода "Ціманава" на веснавых палявых работах. І не выпадкова, бо згодна справаздачы за 21 дзень пасеяў больш паўтысячы гектараў зерневых. А калі гаварыць больш канкрэтна, то 550 гектараў. З даведзенай яму нормай выпрацоўкі справіўся на 131 працэнт, працуючы на трактары МТЗ-80 і агрэгатуючы ўніверсальную сеялку СПУ-6.

З поля зерневага ён адразу ж пераехаў на поле бульбянное. І пасля таго, калі пасадка клубняў была завершана ў гаспадарцы, ён стаў дапамагаць садзіць бульбу аднавяскоўцам. Займаецца таксама не менш клапатлівай і патрэбнай работай.

У племзаводзе А.П.Міхеенка працуе вось ужо роўна дзесяць год пасля заканчэння прафтэхвучылішча. Жанаты, пабудаваў дом, выхоўвае разам з жонкай двух дзяцей.

На здымку: А.П.Міхеенка.

І.ЛАПО.

Фота В.АСМАЛОЎСКАГА.



Саветы і жыццё

## Пасяджэнне пастаяннай камісіі

Прайшло чарговае пасяджэнне пастаяннай камісіі раённага Савета дэпутатаў па пытаннях сацыяльна-культурнай сферы, сацыяльнай абароне грамадзян, законнасці і захаванню правоў і свабод грамадзян.

Пасяджэнне камісіі адкрыў яе старшыня М.М.Глуздоў.

Была заслухана справаздача старшыні Ціманаўскага сельскага Савета дэпутатаў М.П.Курцікава аб тым, як арганізавана на тэрыторыі савета сацыяльнае абслугоўванне адзінокіх, састарэлых людзей. Адзначана, што тут набыты станоўчы вопыт. У той жа час ёсць шэраг хібаў, якія ў прынятым камісіяй рашэнні прапанавана ўхіліць, надаючы больш чуласці і ўвагі запытам названай катэгорыі грамадзян.

Старшыня раённага Савета дэпутатаў С.М.Баранаў праінфармаваў членаў камісіі аб мерах, прапанаваных урадам Рэспублікі Беларусь для паляпшэння фінансавага стану прадпрыемстваў і арганізацый аграпрамысловага комплексу. Маецца на ўвазе прадастаўляемых калгасам і саўгасам да 1 студзеня 2005 года адтэрміноўкі па пагашэнню запазычанасцей па падатках.

Разгледжаны некаторыя іншыя пытанні.

Н.ЛЕНЧЫКАЎ.

Школьнае жыццё

## Сказаў май: "Школа, бывай!"

— Лінейка, прысвечаная заканчэнню 1999/2000 навучальнага года, аб'яўляецца адкрытай! — кажа ў мікрафон намеснік дырэктара школы N 1 А.А.Мінчанка.

І адразу ж пацішэла на школьным двары. Пад умоўную лінейку роўненька выстраіліся вучні класаў. Можа, таму і займела такую назву гэтае даўняе, стаўшае традыцыйным у школьным жыцці, мерапрыемства.

Дырэктар школы С.В. Кохан вітае адных — з заканчэннем вучобы, жадаючы ўдачнай і паспяховай здачы экзаменаў, другім жадае ўважлівасці і ўседлівасці на занятках. Заклікае ўсіх, дзе б яны ні былі, памятаць, што яны выпускнікі першай школы, не дастаўляць клопатаў бацькам.

Ад імя райвыканкама віншуе школьнікаў з заканчэннем чарговага навучальнага года намеснік старшыні райвыканкама В.П.Хрытанкова і выказвае пажаданне атрымаць тыя прафесіі, аб якіх рабяты мараць.

Завуч школы Г.П.Валюжэніч зачытвае загад па школе аб допуску выпускнікоў да экзаменаў. На жаль, не ўсе з іх дапушчаны да іх, а гэта — пяць дзевяцікласнікаў і нават ёсць з адзінаццатага класа. Шкада, што школьная навука не ўсім пайшла на карысць.

У той сапраўды святочны дзень было нямала пажаданняў выпускнікам і тым, хто працягне вучобу ў сценах школы. Іх выказалі таксама першая настаўніца Л.А.Гамолка, якая ў знак удзячнасці атрымала падарунак і букет вясновых кветак ад сваіх былых выхаванцаў.

Выказалі свае добрыя пажаданні класны кіраўнік 11 "А" В.Р.Багамолаў, ад імя бацькоў —С.Ф.Чарняцова. Прыйшлі павіншаваць выпускнікоў, каб пажадаць усе экзамены здаць толькі на "пяць" і ўсім — шчаслівага шляху ў нялёгкай жыццёвай дарозе і самыя маленькія — вучні з падрыхтоўчых класаў.

А гэта Арцём Кірпічэнка, Юля Шлапакова, Крысціна Панамарэнка, Каця Алёшчанка, Арцём Арганістаў. А іх равесніца Таня Кухарэнка разам з Юрыем Шляхценка з 11"Б" аб'явілі апошні званок.

У адказ слова трымае выпускніца Алена Храмянкова, дзякуючы настаўнікаў за вучобу і ў знак удзячнасці называе прозвішчы любімых настаўнікаў, якім рабяты на памяць падрыхтавалі падарункі. Запрашае іх усіх на выпускны вечар. Яна выказала асаблівую ўдзячнасць педагогам А.А.Гамолка, В.М.Свістуновай, У.У.Кавалёву, Т.К.Камароўскай, С.В.Кохану, В.Р.Багамолаву, А.А.Жалязняк, В.С.Баранавай, С.К.Цыркуновай, С.В.Гамолка, Л.У.Байковай, В.Л.Садоху, Н.І.Выдранковай.

Акрамя іншых падарункаў 11"А" падрыхтаваў і музычны — песню, якую выканала трыо выпускнікоў. Выпускнікі і першакласнікі абменьваюцца падарункамі і, пабраўшыся за рукі, робяць з імі развітальны круг па школьным двары. Бывай, школа! Добры дзень, самастойнае жыццё!

І.ЛАПО.

## Лепшыя поля веснавога

**Згодна справаздач гаспадарак у раённае ўпраўленне сельскай гаспадаркі і харчавання**

Саўгас "Мілаславіцкі"

МАЦВЕЕЎ Пётр Іванавіч, працуючы на трактары К-701 у агрэгаце з культыватарам АКШ-7,2, за 24 дні падрыхтаваў 870 гектараў глебы пры норме 456, або выканаў яе на 191 працэнт.

ФІЛЯНКОЎ Віталь Уладзіміравіч, працуючы на трактары МТЗ-80 у агрэгаце з раскідвальнікам МВУ-0,5, раскідаў за 13 дзён мінеральныя ўгнаенні на 427 гектарах пры норме 351, або справіўся з ёю на 122 працэнты.

БЫКАЎ Васіль Рыгоравіч, працуючы на трактары МТЗ-82 у агрэгаце з сеялкай СО-4,2, за 5 дзён пасеяў 91 гектар кукурузы пры норме 60, або дасягнуў яе выканання на 152 працэнты.

ВАСІЛЕНКА Мікалай Мікалаевіч, працуючы на трактары МТЗ-80 у агрэгаце з раскідвальнікам РОУ-6, раскідаў за 4 дні 721 тону ўгнаення пры норме 368, або дабіўся яе выканання на 196 працэнтаў.

ВОЛІКАЎ Станіслаў Станіслававіч, працуючы на пагрузчыку ЭО-2621, пагрузіў за 5 дзён 2877 тон арганікі пры норме 650, або выканаў яе на 442 працэнты!

БЫКАЎ Васіль Рыгоравіч, працуючы на трактары МТЗ-82 у агрэгаце з плугам ПЛН-3,35, узараў за 15 дзён 85 гектараў глебы пры норме 57, або дасягнуў яе выканання на 149 працэнтаў.

ЖАРЫКАЎ Георгій Іванавіч, працуючы на трактары К-701 у агрэгаце з плугам ПЛН-7-40, за 13 дзён узараў 177 гектараў глебы пры норме 143, або справіўся з ёю на 124 працэнты.

КАПІТУЛІН Пётр Віктаравіч, працуючы на трактары Т-150 у агрэгаце з культыватарам КПС-4, за 22 дні пракультываваў 393 гектары глебы замест 286 па норме. Выканаў яе на 137 працэнтаў.

ЗАТРЫМАЙЛАЎ Станіслаў Міхайлавіч, працуючы на трактары ДТ-75 у агрэгаце з культыватарам КПС-4, пракультываваў за 15 дзён 274 гектары глебы пры норме 180, або дабіўся яе выканання на 152 працэнты.

ЦІРУБА Алег Уладзіміравіч, працуючы на трактары Т-150 у агрэгаце з раскідвальнікам МВУ-12, раскідаў мінеральныя ўгнаенні на 944 гектарах пры норме 660, або выканаў яе на 143 працэнты.

Падрыхтаваў І.ЛАПО.

# У "Залатой пчолкі" шмат сяброў!



**Намеснік старшыні аблвыканкама А. Ц. Глаз уручыў дыплом і падарунак Кацярыне Хаасме з Бабруйскага раёна.**



**Цёпла віншаваў старшыня райвыканкама У. В. Канавалаў нашых таленавітых дзяўчынак — Марыну Фурманаву і Ірыну Сцефаненка.**

Міжнародны дзень абароны дзяцей у нас адзначаецца пасаблівламу. Яму вось ужо пяты год запар прысвячаецца цудоўнае свята — фестываль дзіцячай творчасці "Залатая пчолка". З рэгіянальнага фестываль, набраўшыся моцы, перарос у абласны. Статус рэспубліканскі таксама магчымы. Арганізатары, заснавальнікі гэтага дзіцячага свята, сур'ёзна рыхтаваліся да яго адкрыцця і сёлета.

І вось прыйшоў той дзень (27 мая), калі кампетэнтнае журы прыступіла да сваёй адказнай місіі — конкурснага праслухоўвання і прагляду дзіцячых калектываў з розных куточкаў нашай звонкагалосай, таленавітай Магілёўшчыны. Магілёў, Бабруйск праходзілі асобнай графой, яно і зразумела. Але і многія калектывы з раённых цэнтраў таксама на высокім узроўні заявілі аб сабе. Напрыклад, конкурсная праграма з Касцюковіч прыемна ўразіла. Клімаўчане, адкрываючы першы дзень фестывалю, прадставілі на суд спецыялістаў рознажанравую, цікавую і аб'ёмную праграму, якая складалася з дзесяці нумароў. І адразу скажу, што вынікі неблагія. Сем дыпломаў на гэты раз!

А самае незабыўнае ўражанне, на маю думку, пакінулі на гэтым фестывалі танцавальныя калектывы. Эстрадны калектыў "Флэш" з Клімавіч падрыхтаваў да свята зусім новую і даволі складаную танцавальную кампазіцыю. Запомніліся сваімі выступленнямі калектывы танцораў з Быхава (ансамбль "Надзея"), з Асіповіч ("Асарці"), з Глуска ("Глусчаначка"). І ўсё ж неператўзыйдзеным быў самы юны і шматлікі танцавальны калектыў — бабруйская "Зязюлечка".

І перш, чым перайсці да другога дня фестывалю, па-сапраўднаму святочнаму, скажу, што адкрывалі конкурсную праграму пажаданнямі поспеху ўсім канкурсантам намеснік старшыні райвыканкама І. А. Баршчоў, чалавек, маючы самае непасрэднае дачыненне да гэтага прыгожага свята дзяцінства, і намеснік начальніка Упраўлення культуры аблвыканкама В. А. Лаўцоў — старшыня журы.



**Конкурсную праграму пачынаюць клімаўчане. У цэнтры— салістка Юля Коршунава.**

Пасля праслухоўвання калектывы, аб'яднаўшыся, раз'ехаліся па раёну і за межы яго, у працоўныя калектывы, са сваімі канцэртнымі выступленнямі. Ну, а вечарам фестываль перамясціўся на плошчу 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, дзе работнікі раённага цэнтра культуры ладзілі для ўсіх удзельнікаў фестывалю і моладзі Клімавіч дыскатэку, праводзілі гульні, конкурсы, вядома ж, былі і падарункі.

Цёплая, прыгожая раніца ў нядзелю прадвяшчала добры, сонечны дзень. Многія клімаўчане, прыслухаўшыся да нашых запрашэнняў, прыйшлі на святочную плошчу. А яна набыла выгляд сапраўднага вясёлага, маляўнічага дзіцячага гарадка: сцэна іграла ўсімі колерамі вясёлкі; у "Горадзе майстроў" ішоў гандаль вырабамі, зробленымі дзіцячымі рукамі, тут жа працавалі і самі юныя майстры; шматлікія гандлёвыя кропкі задавальнялі попыт як дзяцей, так і дарослых; ліліся гукі духавога аркестра; рабяты ў прыгожых, яркіх касцюмах строіліся ў вялікую калону. Вось-вось павінен быў пачацца святочны парад. Пакуль жа артысты праходзілі шлях з цэнтра горада зноў на плошчу, гледачы займалі месцы — хто ў цяньку паркавых дрэў, хто на лавах пад сонейкам — і рыхтаваліся паглядзець заключны канцэрт фестывалю.

А ў гала-канцэрце, як і чакалася, атрымалі права прыняць удзел самыя яркія калектывы і выканаўцы. Іх, а таксама ўсіх удзельнікаў фестывалю, гледачоў — дзяцей і дарослых — віталі старшыня райвыканкама, старшыня аргкамітэта фестывалю У. В. Канавалаў і намеснік старшыні аблвыканкама А. Ц. Глаз. Затым праходзіў традыцыйны рытуал — падняцце флага. Гэта права было прадастаўлена прадстаўнікам Клімаўшчыны, Касцюкоўшчыны і Шумяч.

Ну, а тое, што мы пабачылі затым на сцэне, было цудоўным і захапляючым. Дзеці — гэта вясёлы, бадзёры, гарэзлівы народ. І таленавіты.

Галоўны рэжысёр усяго гэтага свята У. Д. Бараноўскі прадугледзеў у заключным канцэрце асобны блок, прысвячаўся які 55-годдзю Вялікай Перамогі. На сцэну запрасілі ветэранаў, дакладней, наш народны хор ветэранаў вайны і працы. Прагучалі песні ваенных гадоў, і рабяты ўручылі шаноўным людзям кветкі, а да помніка загінуўшым воінам у гарадскім парку ўсклалі гірлянды.

Прыемным момантам было ўзнагароджванне пераможцаў фестывалю. Намінацый было вельмі багата, былі і дзве ўзроставыя групы. Дыпломы і падарункі (мяккія цацкі, альбомы і іншае) юным артыстам уручалі У. В. Канавалаў, А. Ц. Глаз, В. А. Лаўцоў, першы сакратар абласнога камітэта БПСМ А. П. Далжэўскі, старшыня камітэта па справах моладзі аблвыканкама І. А. Дарафеева, віцэ-прэзідэнт Лайанс-клуба г. Клімавічы М. М. Краўчанка. Дарэчы, свой грашовы ўклад у набыццё прызоў унесла і бюргермайстар г. Бінген-на-Рэйне Брэгіта Гізберт. На наступны год, як заначыў І. А. Баршчоў, плануецца запрасіць на фестываль таксама дзіцячыя калектывы з Германіі і, магчыма, іншых краін.

Такім чынам, першыя месцы занялі ў вакальна-харавым жанры Кацярына Хаасма і Святлана Ільіна (Бабруйскі раён), Паліна Зузіна і Арына Янішэўская (Магілёўскі раён), другія месцы — Анастасія Сцефаненка (г. Клімавічы), Дар'я Мінчанка (г. Слаўгарад), Андрэй Стэльмах (г. Быхаў), Анастасія Філіна (Кіраўскі раён), Юля Тодрык (г. Касцюковічы), трэцця — Ціма Алтынаў (Магілёўскі раён), Алена Багарадава (г. Горкі), Кацярына Шкурапацкая (Клімавіцкі раён). Заахвочвальныя дыпломы і падарункі атрымалі Раман Чубанаў (Магілёўскі раён) і Аксана Талкачова (г. Касцюковічы). Дыпломы першай ступені былі ўручаны трыо дзяўчат з г. Касцюковічы, вакальнаму ансамблю "Вясёлка" з Магілёва і фальклорнаму ансамблю з Клічава. Дуэт Ірыны Сцефаненка і Марыны Фурманавай з Клімавіч і вакальны ансамбль са Слаўгарада адзначаны Дыпломамі другой ступені, а трэцяй — дуэт з Касцюковіч і фальклорны ансамбль з Краснаполля.

У інструментальным жанры нашы рабяты атрымалі два Дыпломы першай ступені. Гэта квартэт трубачоў і ансамбль народнай музыкі "Лабжаначка". Дарэчы, "Лабжаначцы" на фестывалі рашэннем камісіі прысвоена званне "узорны". Аналагічныя дыпломы ўручаны: салістам Ігару Лабкову з Круглага і Ніне Малькоўскай са Шклова, аркестру народнай музыкі з Магілёва і ансамблю скрыпачоў са Шклова. Другія месцы занялі Надзея Вергейчык з Касцюковіч, круглянскі духавы аркестр і буйніцкія скрыпачы (Магілёўскі раён). Алеся Крывянкова з Магілёва, духавы аркестр з Глуска і ансамбль скрыпачоў з Крычава ўдастоены Дыпломаў трэцяй ступені. Заахвочаны Жэня Магілёўцава са Шклова і Анастасія Касалапава з Мсціслаўля.

Была і такая намінацыя, як аўтары-выканаўцы. Тут вядучае месца заняў Алег Ганін з Магілёва, другім быў Аляксандр Гіркін з Касцюковіч.

У народна-сцэнічных танцах першае месца па праву было аддадзена лаўрэату некалькіх конкурсаў рознага ўзроўню бабруйскаму ансамблю "Зязюлечка", у эстрадна-спартыўных перавага была на баку танцавальнага калектыва "Асарці" з Асіповіч. Дыпломаў другой і трэцяй ступені ўдастоены калектывы з Быхава, Дрыбіна, Магілёва, Клімавіч і Кіраўска. Заахвочвальнымі дыпломамі адзначаны юныя танцоры з Мсціслаўля, Глуска і наш танцавальны калектыў "Флэш".

Дыпломы і падарункі на памяць аб фестывалі павезлі дамоў нашы госці: духавы аркестр з г. Магілёва і творчыя калектывы з Дзеснагорска і Шумяч.

Творчасць — гэта і малюнак на асфальце. У конкурсе ўдзельнічала пятнаццаць юных мастакоў, якія ў малюнках імкнуліся паказаць сваё бачанне рэчаіснасці, свае мары... Найбольш удалыя работы адзначаны Дыпломамі ўсіх трох ступеняў і падарункамі. Іх атрымалі Даша Сапранецкая (г. Крычаў), Анастасія Баранава (г. Касцюковічы), Юля Еўстаф'ева (г. Быхаў). Заахвочаны Іра Андрэйчыкава, Наташа Цыбульская, Аляксандр Кананенка з Клімавіч, а таксама прадстаўнікі нашых першай і другой гарадскіх школ.

Падведзены былі і вынікі выстаўкі "Горада майстроў". Трэцяя і чацвёртая агульнаадукацыйныя школы з Клімавіч і Крычаўская дзіцячая мастацкая школа атрымалі дыпломы, а таксама семнаццаць рабят-майстроў заахвочаны былі. Сярод іх клімаўчане: Оля Саўчанка, Оля Семчанка і Андрэй Застрэлаў.

Яркія, прыгожыя падарункі — мяккія цацкі атрымалі і вядучыя гэтага дзіцячага фестывалю — конкурснай праграмы і гала-канцэрта: Аксана Гурбовіч і Ваня Чарненка, Ірына Аўхіменка і Наталля Шумская.

Чакалі мы ўвесь год нашу "Залатую пчолку", і вось яна зноў адзвінела. Што ж, развітваемся не на доўга. Будзем рыхтавацца да сустрэчы з ёй, з цудоўнымі дзеткамі-пчолкамі ў наступным годзе.

Шмат сяброў сабраў фестываль, а будзе яшчэ больш!

**В. КВАРЦЮК.**



**Па галоўнай вуліцы з аркестрам.**



**"Горад майстроў" запрасіў на выстаўку дзіцячых творчых работ.**

**Фота В. АСМАЛОЎСКАГА.**



# ПРАСТОРЫ Бацькаўшчыны



*Гэты здымак зроблены некалькі год таму ў дзіцячай мастацкай школе. Оля Дуброўская ў час заняткаў.*

**Фота В. БЫСАВА.**

## За причиненный ущерб нужно платить

Несоблюдение правил пожарной безопасности причиняет большой ущерб и государству, и лично тому, кто его допустил.

20 мая пастухи д. Пеньковка Климовичского района Хомченко Ян Александрович, 1986 г. р., и Кохан Михаил Иванович, 1957 г. р., пасли коров недалеко от кв. № 48 Киселево-Будского лесничества Костюковичского лесхоза. Проигнорировав неоднократные сообщения "О соблюдении правил пожарной безопасности", разложили костер вблизи стены леса и покинули его без присмотра, что привело к загоранию травы. Потушить возникший пожар пастухи были не в силах. От разгоревшейся травы и распространения огня загорелся лес.

Пожарный сторож Киселево-Будского лесничества В. В. Ляпунов заметил, что горит лес. В 10 часов 30 минут лесная охрана Киселево-Будского лесничества во главе с и. о. лесничего С. В. Грищенко и прибывшая ВПЧ д. Звенчатка локализовали, а затем ликвидировали пожар. В результате его на площади 1 гектара повреждены деревья и сгорел весь лесной подрост.

На граждан Хомченко Я. А. и Кохан М. И., виновных в возникновении лесного пожара, составлен протокол, согласно которого им придется уплатить штраф за причиненный ущерб лесному хозяйству, а также возместить все затраты по тушению пожара.

Лесная охрана Костюковичского лесхоза обращается ко всем гражданам Климовичского района: находясь в лесу, будьте осторожны с огнем. Не покидайте без присмотра разложенный вами костер. Уходя, убедитесь, что костер потушен и не будет причиной возникновения лесного пожара.

**В. ПОЗДНЯКОВ, мастер по охране леса и охотфауны Костюковичского лесхоза.**

## *Лекарство от ста болезней*

В одном из рукописных изданий XVI века на Руси упоминается о грибе-трутовике, известном под названием чага. Гриб паразитирует на березе. Иногда поражает и ольху, бук, ясень, рябину. Но лечебными свойствами обладает только березовый. Он имеет вид наростов с черной растрескавшейся поверхностью. Диаметр гриба иногда достигает 40-50 см, а масса — 3-5 кг. Внутренняя ткань очень твердая, темно-коричневого цвета, ближе к сердцевине она светлее и мягче, с темными прожилками. Чага растет только на живых березах в местах полома сучьев и веток, морозобойных трещин, механических повреждений. Чага — не совсем обычный гриб. Многие годы паразитируя на березе, он не размножается. Только когда дерево погибает и у него опадает кора, споры свободно высыпаются и разносятся ветром, заражая здоровые деревья.

В Беларуси чага встречается повсеместно. Собирают ее круглый год, но лучшим временем сбора гриба считается зима и ранняя весна. Наросты отрубают топором вдоль ствола, очищают внутреннюю рыхлую часть и удаляют приставшие куски коры и древесины. Перед сушкой чагу надо порубить на куски и хранить в сухом месте. Куски должны быть длиной примерно 3-6 см. Хранится чага без потери своих целебных свойств около 2 лет.

Издавна народ применял чагу для лечения рака желудка, при болезнях кишечника, печени и селезенки. Ее замачивали в горячем кипятке на 4 часа, затем мелко рубили и снова настаивали на кипятке двое суток, из расчета 1 часть гриба на 5 частей воды. Густой коричневый напиток пили 3 раза в день по стакану, применяли для компрессов. Можно использовать этот гриб и в качестве заварки вместо чая. При этом получается медово-коричневый, терпкий и вяжущий напиток.

В настоящее время производится много лекарственных препаратов, сделанных на основе чаги. По рекомендации врача чагу применяют при язвенной болезни желудка и двенадцатиперстной кишки, при бессоннице, для успокоения нервной системы. Чага значительно облегчает страдания больных раковыми заболеваниями, но не является радикальным средством для лечения рака.

Чага очень хорошо помогает при инфекционных заболеваниях, поэтому при эпидемиях гриппа пользуются ей. Очень хороша она и при заболеваниях кишечника.

Популярность чаги очень высока, не зря же называют ее "грибом от ста болезней".

**Д. Н. САВЕНЯ.**

*Цікава ведаць*

## У дапамогу Амуру

Вясна ажыўляе не толькі прыроду. З падвоенай сілай пявалічваецца ў нашай душы прага пяшчотных пачуццяў. Мы марым кахаць і быць каханымі.

Афразіякі, альбо сродкі, якія распальваюць жар жаданняў, былі вядомы ўжо ў антычныя часы. Старажытныя грэкі асаблівую сілу прыпісвалі спаржы, нават яе назва азначала — "жаданне". У старажытным Егіпце ў пашане быў сельдэрэй, які валодае ўніверсальным наборам карысных якасцей: лечыць, робіць нас больш прыгожымі, амаладжвае і абуджае жаданні. Ужо Трыстан і Ізольда пілі сок з гэтай агародніны, а калі 200 г цёртага сельдэрэю заліць 1 літрам белага сухога віна, то атрымаецца напой з прыемным ананасавым смакам, які для ўмацавання самаадчування і добрага настрою варта піць два разы ў дзень па дзве сталовыя лыжкі.

"Перачна і шафранна, мая мосці панна", — гаварылі ў старапольскіх дамах, і нядзіўна, бо сярод раслінных прыправаў мы знаходзім цэлы арсенал афразіякаў. Менавіта шафрану і іншым прыправам (мускатны арэх, перац, гваздзік, ваніль) прыпісвалі сілу абуджаць "агонь жаданняў". Любоўныя напоі складалі нашы продкі таксама з грэцкіх арэхаў, крапівы, кораня архідзі, жэньшэню.

Каштоўным афразіякам з'яўляліся зяленіва пятрушкі і сок каранёвай яе часткі, а таксама белая гарчыца і шалфей. "Памнажае цялесную развязанасць" — так у старажытных кнігах пісалі пра чабрэц і маяран.

Сёння мы ставімся да гэтых навінак напаўжартам-напаўсур'ёз, з адценнем уласнай перавагі. Але хто ведае, можа, варта прыйсці на дапамогу вясеннаму Амуру? Бо як там ні кажы, а сучаснае каханне, па сутнасці, нічым не адрозніваецца ад пачуцця, якое ўспыхнула паміж Цэзарам і Клеапатрай.

**Падрыхтавала Лілія БАГУШЭВІЧ.**

## Акунь

Акунь — найбольш шырока вядомая рыбаловам-аматарам рыба. Яна з'яўляецца самай шматлікай у вадаёмах нашай рэспублікі і практычна сустракаецца ўсюды, дзе ёсць больш або менш чыстая вада. Аднак больш за ўсё любіць пасяляцца ў вадзе чыстай. Дробная рыба трымаецца сярод раслліннасці ў прыбярэжных зонах вадаёмаў, буйная — у ціхіх завадзях, дзе праводзіць асноўны час і выходзіць толькі на жыраванне.

Акуня даволі лёгка адрозніць ад іншых рыб па шырокім, злёгку гарбатым тулаве з цёмна-зялёнай спіной. Асобае адрозненне прыдаюць яму таксама 5—9 цёмных палосак, якія цягнуцца ўпоперак цела.

Звычайная вага акуня 800—1200 грамаў. Аднак бываюць асобіны вагой да чатырох кілаграмаў. Пры гэтым даўжыня цела не перавышае паўметра, таму што яно расце ў асноўным у таўшчыню. Старыя "гарбачы" на вышыні маюць размер да 25 сантыметраў і таўшчыню ў спіне больш 12 сантыметраў.

На нераст выходзіць у канцы красавіка — пачатку мая, у перыяд распускання лісця бярозы. Ікра акуня склейваецца ў доўгія стужкі, якія ён чапляе за карэнне, каменне і летashнюю раслліннасць.

Акунь харчуецца амаль усім жывым, што яму трапляецца і падыходзіць па сіле — жукамі, чарвякамі і іншый воднай жывнасцю. Асабліва любіць ракаў. Але асноўны харч — дробная рыба. Ён моцны і агрэсіўны драпежнік. Пры паляванні адбівае рыбку ад стаі і, гучна чмякаючы сваёй вялікай пашчай (гэта чмяканне часам чуваць за сотню крокаў), ганяе яе з незвычайнай настойлівасцю. Часам нават выскоквае за сваёй здабычай на берагавыя мелі. Плаваюць акуні рэзкімі штуршкамі. Яны могуць рэзка спыняцца і зноў маланкава кідаюцца за здабычай.

У зімовы перыяд стаі акунёў перабіраюцца ў глыбокія ямы. Акуні актыўна харчуюцца, і таму лавіць іх можна практычна круглы год.

Лепшыя месцы для лоўлі акуня — закаражаныя ямы, ля абрывістых берагоў, а таксама ўчасткі вадаёмаў, якія пазарасталі трыснягом, асакой. Яны аднолькава добра ловяцца паплавочнымі і закіднымі вудачкамі, спінінгам, на блешню і мармышку. Клюе акунь рэзка, адразу захоплівае насадку сваім вялікім ротам, цягне яе ўбок і на хаду заглытвае. У якасці насадкі звычайна выкарыстоўваюць чарвяка, матыля, лічынкі стракоз, малькоў, рыб, маленькіх жабак і маладых п'явак. Вельмі добра ідзе акунь на лінючага рака, ракавыя шыйкі і маленькіх рачных рачкоў. Восенню і зімою добрыя вынікі дае лоўля на металічную блешню, асабліва праз некалькі дзён пасля замярзання вадаёма.

Мяса акуня, хаця і касцістае, але далікатнае і салодкае. Яго вяліць, выкарыстоўваюць для юшкі сумесна з іншай рыбай, некаторыя соляць на зіму. Але найбольш смачны акунь смажаны ў сметанковым масле.

**В. СТОМА, біёлаг, член Саюза пісьменнікаў.**

## ВОЎК — ЗВЕР ХІТРЫ?

Так, хто толькі ні абдурваў ваўка. Але гэта ў казках ды байках воўк даверлівы дурань. На самой справе ён нават хітрэй у некалькі разоў за лісу. І санітар ён не такі ўжо добры, як яго хваляць. Падаль падбіраюць толькі самыя слабыя звяры, а іх не так ужо і шмат.

Воўк — моцны і злосны драпежнік. У асноўным жыве ў лясах. Любіць пералескі, густыя трушчобы з накатанымі дарогамі. Іншы раз наведвае вёскі або жывёлагадоўчыя фермы.

Гон пачынаецца ў канцы зімы. У красавіку-маі самка прыносіць да 4-6 ваўчанят. У верасні пачынаецца сямейныя паляванні. У першыя паляванні вывадак вяртаецца ў логава. Увосень і зімой пераходзяць на бадзяны спосаб жыцця. У гэты час трымаюцца сям'ёй да дзесяці і больш звяроў у кожнай. Логава ваўкі будуюць у месцы, дзе рэдка бывае чалавек. Такім месцам можа быць сухое ўзвышша сярод балот, абавязкова недалёка ад вады.

Цікавасць прадстаўляе хадзьба ваўкоў. У час бега звер трымае лапу ў "камку". След атрымліваецца прадаўгаватым. Калі звер рухаецца крокам ці трушком, ён ідзе след у след. Гэта значыць левую заднюю лапу ставіць у след правай пярэдняй, а правую заднюю — у след левай пярэдняй. Калі ідзе зграя ваўкоў, то кожны воўк ступае ў след пярэдняга. Таму бывае цяжка вызначыць колькі прайшло звяроў.

Аднойчы быў такі выпадак, які яшчэ раз пацвярджае, што воўк — звер усё ж такі хітры і асцярожны.

Неяк прыехаў мой знаёмы наведаць родныя мясціны. Мы гутарылі далёка за поўнач. І раптам пачулі скагатанне суседняга сабакі.

— Ваўкі... Гавораць, яны часценька заглядваюць да вас у вёску, — узрушана гаворыць Андрэй. — Трэба штосьці прыдумаць!..

Назаўтра адшукалі ваўчыную сцежку. І рашылі ўсё-такі палявать. Зрабілі прыманку: нежывога цялёнка падвесілі так, што ён стаяў на зямлі як жывы. У пяцідзесяці метрах на другім дрэве змайстравалі на суччы для сябе будку, каб зручна было назіраць за наваколлем.

— Лічы, што звер у маіх руках, — кажа Андрэй.

Ноч выдалася спакойнай. Зрэдку патрэскваў мароз. Мы сядзелі, затаіўшы дыханне, але звер так і не прыйшоў. А раніцай у двухстах метрах убачылі сляды ваўкоў. Яны зрабілі вакол нас круг.

На другі дзень зноў пайшлі на звера. Вынік той жа самы. На трэцюю ноч рашылі адпачыць дома. На зорцы пайшлі на месца палявання праверыць прыманку. І што вы думаеце? Ад нашай прыманкі вісела толькі вяроўка. Вакол дрэва адны сляды. Цяляці як ветрам знясло. Значыць, воўк — звер хітры.

— Ідучы на паляванне, не хваліся загадзя здабычай, — ціхенька паляпаў па плячы я Андрэя.

**Я. ФУРСІН.**

в. Аляксандраўка, Слаўгарадскі раён.



*Улыбнемся вместе*

Ты знаешь, подруга... У меня есть заветная мечта! Иметь автомобиль.

— Странное совпадение желаний! Только я хочу автомобиль с шофером.

* * *

Вечер. Сумерки. Влюбленный обнимает девушку.

— Милая! Я тебя люблю!

— Ах, оставь меня! Иначе я закричу!

— Но тогда нас могут услышать твои родители.

— Боже мой! Я об этом как-то не подумала.

● Фермам — дастатак кармоў

## Выехалі касілкі на сенажаці

Надышло лета, надышоў час і касавіцы. У гаспадарках раёна прыступілі да ўборкі траў першым укосам. У калгасе "Герой працы" на гэтай рабоце стараецца механізатар Аляксандр Іванавіч Алёшчанка. Ён пакуль косіць на падкормку жывёле.

У гаспадарцы завяршаецца падрыхтоўка цалкам усёй кормаўборачнай тэхнікі. На сенажацях тут будуць задзейнічаны хутка ў рабоце на касьбе траў тры касілкі Е-301 і тры — КОН-2,1. Адзіная праблема — рост траў, зазначыў старшыня А.К.Баўкуновіч.

У калгасе "Чырвоны сцяг" касавіцу распачаў механізатар Мікалай Васільевіч Аўчыннікаў на ротарнай касілцы КРН-2,1. Таксама ўбірае травы на падкормку жывёле.

Гэтаксама прыступілі да касьбы траў першым укосам у калгасах "Рабочы" і "Сасноўка", саўгасах "Звянчацкі" і "Высакоўскі", "Макеевічы" і "Малышкавічы", аграгандлёвым прадпрыемстве "Асмолавічы" і эксперыментальнай базе "Раднянская".

Усяго ў раёне ўжо скошана каля паўтысячы гектараў з 22397, якія прадстаіць убіраць згодна плана. Найбольшыя плошчы, за дзве тысячы гектараў, давядзецца ўбіраць корманарыхтоўшчыкам племзавода "Цімanава", саўгаса "Мілаславіцкі" і калгаса "Сасноўка".

**І.ЛАПО.**

## Месячник безопасности

Уважаемые жители города и района!

С 10 июня по 10 июля 2000 года в связи с наступлением пожароопасного периода военизированной пожарной службой Климовичского района проводится месячник пожарной безопасности, цель которого не допустить пожаров в жилых домах граждан и на объектах района.

Чтобы сберечь свое и государственное имущество, жилье своих близких и соседей, предотвратить гибель людей на пожарах, необходимо строго выполнять правила пожарной безопасности:

— не пользоваться неисправными электроприборами;

— осторожно обращаться с открытым огнем, газовыми приборами;

— не оставлять без присмотра электроприборы;

— не разводить костров и не сжигать мусор;

— не оставлять без присмотра малолетних детей;

— быть осторожными с огнем в лесах и на торфяниках.

Помните! Беспечность и халатность приводит к пожарам с большими материальными ущербами, а нередко и с трагическим финалом — гибелью людей.

**Л.РОМАНЕНКО,**
**старший сотрудник центра обучения пожарной безопасности.**

## Содействие занятости населения

Закон "О занятости населения Республики Беларусь" определяет правовые, экономические, социальные и организационные основы регулирования занятости населения Республики Беларусь в условиях многоукладной рыночной экономики.

Содействие занятости населения включает в себя: трудоустройство, профобучение и профориентацию, организацию общественных работ, самозанятость и создание новых рабочих мест, справочно-информационную работу и другие.

Говоря о трудоустройстве, необходимо отметить, что в последние годы этот вопрос неплохо решается в нашем районе. Так, за прошлый год и первый квартал текущего года в районе службой занятости трудоустроен 651 человек, или 73,8% к числу зарегистрированных безработных, что выше среднеобластного показателя на 10%. Неплохо решался вопрос трудоустройства слабозащищенной категории граждан. За вышеуказанный период таких граждан трудоустроено 109 человек, или 59,6% от числа обратившихся. Более принципиально решали этот вопрос руководители таких предприятий, организаций, как завод металлоизделий, маслозавод, МПМК-256, ПМК N 9, ПО ЖКХ и другие, в то же время плохо решают этот важный вопрос, как в прошлом так и в текущем годах, руководители ликеро-водочного завода, комбината хлебопродуктов, электрических сетей, ДРСУ N 172 и другие. И если такое положение будет продолжаться и дальше, то к ним будут применены штрафные санкции, как того требует Закон "О занятости населения Республики Беларусь".

Оценивая ситуацию с занятостью населения района, необходимо отметить, что она улучшилась, как в подавляющем большинстве городов и районов республики.

Однако, в сфере обеспечения занятости населения имеется ряд проблем, требующих дальнейшей проработки и определения конкретных путей и методов их решения.

Продолжается рост безработицы за счет уволенных по соглашению сторон. Такие действия допускают руководители: комбината строительных материалов, автопарка N 9, ЛВЗ, ПО ЖКХ, племзавода "Тимоново", подсобного хозяйства ЛВЗ и другие, не понимая, что это является уважительной причиной увольнения, а следовательно уволенные становятся на учет в центр занятости, с последующей выплатой пособия по безработице. Многие из таких безработных не хотят трудоустраиваться и на долгое время остаются безработными. В результате таких действий на сегодняшний день в центре занятости состоит 74 безработных, проживающих в сельской местности, хотя колхозы и совхозы района крайне нуждаются в рабочей силе, особенно в летнее время. По этой же и другим причинам среди безработных 61 человек, которые состоят на учете в центре занятости более одного года.

Важным фактором в содействии занятости населения, повышения конкурентоспособности на рынке труда является профобучение и профориентация незанятого населения. За прошлый 1999 год при задании профобучить 40 человек фактически переобучено 60 человек, что составляет 150%. При задании на текущий год 40 человек за первый квартал направлено на профобучение 16 безработных.

Хотел бы сообщить для тех, кто хочет переобучиться, что по областному радио часто дается информация Могилевского регионального центра занятости, где и по какой специальности можно пройти подготовку, все это можно применять и для нашего района. Так что пользуйтесь этой информацией областного радио.

Во исполнение Декрета Президента Республики Беларусь от 17 марта 1997 г. N 7 "О дополнительных мерах по обеспечению занятости населения" районный центр занятости большое внимание уделяет организации и проведению общественных работ. В истекшем году приняло участие в общественных работах 450 человек, в том числе 315 безработных, всего отработано 3428 ч/дней, в том числе безработными 2950. В первом квартале текущего года приняло участие в общественных работах 105 безработных.

Мы благодарны всем тем, кто с чувством ответственности в истекшем году принимал участие в общественных работах и призываем, учитывая сложность в проведении сельскохозяйственных работ в текущем году, еще с более высокой ответственностью отнестись к этому важному делу. Напомню, что организацией и отправкой людей на сельхозработы занимается центр занятости. Для решения вопроса участия в общественных работах обращайтесь в центр занятости или звоните по телефону 2-41-61.

**В.ШИНКЕВИЧ,**
**директор центра занятости населения.**

Служба "01"

## Решим задачу — сохраним технику и корма

После окончания посевной кампании перед сельским хозяйством района встает новая, не менее важная задача — это заготовка и хранение грубых кормов.

В решении этой задачи будет занято большое количество автотракторной техники и людей, поэтому выполнение в полном объеме предписаний инспекции государственного пожарного надзора руководителями сельскохозяйственных предприятий, знание и выполнение правил пожарной безопасности лицами, занятыми непосредственно на заготовке и складировании, позволит сохранить автотракторную технику и грубые корма от пожаров.

Комплекс противопожарных мер не сложный. Перед выездом на луг, въездом в склад водители должны проверить исправность и надежность крепления искрогасителя, проверить исправность и надежность крепления электрооборудования, устранить подтекания топлива и масла в системах.

Площадки открытого склада кормов необходимо опахать полосой, шириной не менее 4 м, на расстоянии 15 м от основания скирд, а отдельных скирд — на расстоянии 5 м от основания. Площадь основания одной скирды не должна превышать 150 кв. м. Расстояние от скирды до линии электропередач должно быть не менее 15 м, до дорог — 30 м, до зданий и сооружений — 50 м, лесного массива — 100 м.

Во избежание загораний кормов от непосредственного соприкосновения с выхлопными трубами, коллекторами автомобили, трактора, занятые на погрузочно-разгрузочных работах, не должны подъезжать к скирдам ближе 3 м. Территорию складов необходимо обгородить, установить молниезащиту, обеспечить первичными средствами пожаротушения, обеспечить сторожевой охраной.

На территории складов и площадок запрещается курение, применение открытого огня и проведение огневых работ.

**А.ЛУКУТИН,**
**инспектор Госпожнадзора.**

● *Наша консультация*

## О гражданстве

8 апреля 2000 года вступило в силу Соглашение между Республикой Беларусь и Украиной об упрощенном порядке изменения гражданства гражданами Беларуси, постоянно проживавшими в Украине, и гражданами Украины, постоянно проживавшими в Беларуси, подписанное 12 марта 1999 года в Киеве.

В соответствии с Соглашением ходатайствовать о приобретении гражданства Республики Беларусь имеют право граждане Украины, которые:

— оставлены в установленном порядке в Республике Беларусь на постоянное жительство;

— прописаны в Республике Беларусь;

— выписаны из Украины в Республику Беларусь;

— оформили в установленном порядке выезд на постоянное жительство из Украины (т.е. прибыли в Республику Беларусь с паспортами гражданина Украины кирпичного цвета).

Не принимаются к рассмотрению ходатайства граждан Украины, которые выписались в пределах Украины после вступления в силу вышеназванного Соглашения, т.е. после 8.04.2000 года.

На принадлежность заявителя к гражданству Украины указывают:

— паспорт гражданина Украины;

— паспорт СССР образца 1974 года с отметкой о прописке в Украине по состоянию на 24 августа 1991 года или 13 ноября 1991 года;

— паспорт гражданина Украины для выезда за границу;

— проездной документ ребенка;

— справка или сообщение компетентного органа Украины, подтверждающие принадлежность лица к гражданству Украины.

Совместно с родителями, усыновителями, опекунами, попечителями гражданство Республики Беларусь в соответствии с Соглашением могут изменять их несовершеннолетние дети, а также несовершеннолетние лица, находящиеся под их опекой либо на и попечительстве.

При приеме документов у гражданина Украины, ходатайствующего о приеме в гражданство либо о приобретении гражданства Республики Беларусь в порядке регистрации, не истребуются следующие документы:

— о выходе из гражданства Украины;

— об уплате государственной пошлины.

**О ПАСПОРТИЗАЦИИ**

В настоящее время паспортизировано свыше 13 тысяч человек, проживающих в Климовичском районе. Напоминаем, что родителям необходимо заранее побеспокоиться о своих 16-летних детях, выезжающих на учебу в связи с поступлением в учебные заведения, на оздоровление и т.д. Это также касается взрослых, выезжающих на оздоровление в Россию, в Украину. Потому что возникает много вопросов на границе в отношении тех граждан, которые имеют паспорта бывшего СССР, ибо такого государства уже не существует.

Лицам 25-ти и 45-летнего возраста, если в их старых паспортах не вклеены фото, то такие паспорта являются недействительными. Документ необходимо заменить. В связи с выездом в пределах Республики Беларусь на другое постоянное место жительства каждый гражданин должен прибыть с паспортом в орган внутренних дел там, куда он переехал.

Приглашаем жителей Климовичского района произвести заблаговременно обмен паспортов, чтобы не создавать очередей и нервотрепки.

**ПАСПОРТНО-ВИЗОВАЯ СЛУЖБА КЛИМОВИЧСКОГО РОВД.**

(С информацией корреспондента "Роднай нівы" **Николая ГЛУЗДОВА** познакомил начальник паспортно-визовой службы **Иван ИГНАТЕНКО**).

## Дизентерия и профилактика

В Климовичском районе зарегистрировано большое количество заболеваемости дизентерией.

Дизентерия — острое инфекционное заболевание, которое сопровождается поражением слизистой оболочки толстого кишечника, болями в животе, частым жидким стулом с примесью слизи и крови, общей интоксикацией.

Источником заболевания является больной человек. Заражение данным заболеванием возможно следующими способами: контактно-бытовой, пищевой и водный. Большую роль играют антисанитарные условия.

Путь заражения следующий: попадая в кишечник, микроорганизмы внедряются в эпителий толстого кишечника с последующим проникновением в кровь токсических веществ. Дизентерия может протекать как легко, так и тяжело, а также скрыто.

Инкубационный период 1-6 суток. Заболевание начинается с ухудшения общего состояния, болей в животе, жидкого стула до 10 раз в сутки, иногда отмечается подъем температуры. Может наблюдаться увеличение краткости жидкого стула и до 30-40 раз в сутки.

Особенно опасно, когда больные данным заболеванием не обращаются за медпомощью и занимаются самолечением: а ведь течение инфекционного процесса при этом не ликвидируется, а лишь заглушается, и тем самым данные больные способны заражать многих контактных лиц.

Профилактика заключается в соблюдении правил личной гигиены и контроле за качеством продуктов питания и питьевой воды.

**Д.КУЗЬМИЧ,**
**главный санитарный врач района.**

**Калектыў настаўнікаў і работнікаў СШ N 4 выказвае глыбокае спачуванне шэф-повару ФЯДЗЯЕВАЙ Марыі Міхайлаўне з выпадку напаткаўшага яе вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.**

**Калектыў рамонтна-будаўнічага ўпраўлення выказвае глыбокае спачуванне намесніку начальніка РБУ СІНІЦКАМУ Віктару Міхайлавічу з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — дачаснай смерці БРАТА Уладзіміра.**

**Калектыў Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода выказвае глыбокае спачуванне бухгалтару БЕЛАВУСАВАЙ Валянціне Барысаўне і інжынеру па якасці БЕЛАВУСАВУ Уладзіміру Пятровічу ў сувязі са смерцю СЫНА і БРАТА.**

**Калектыў Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода выказвае глыбокае спачуванне цеплатэхніку СІНІЦКАМУ Мікалаю Міхайлавічу ў сувязі са смерцю БРАТА.**


**Галоўны рэдактар Мікола МІНЧАНКА**

**"РОДНАЯ НІВА". Заснавальнікі: Клімавіцкі раённы выканаўчы камітэт, Клімавіцкі раённы Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі.**

**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах 2 разы на тыдзень —па серадах і суботах.**

**Кошт 1 экземпляра газеты — 32 рублі .**

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213600 г. Клімавічы, пл. 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, д. № 1.

ТЭЛЕФОНЫ: галоўнага рэдактара —2-11-69, намесніка рэдактара і загадчыка аддзела савецкага будаўніцтва — 2-11-60, адказнага сакратара — 2-12-63, аддзелаў сацыяльных праблем і інфармацыі, рэдактара аддзела па рэкламе і аб'явах — 2-12-65, аддзела эканомікі і бухгалтэрыі — 2-12-64, аддзела радыёінфармацыі — 2-31-58, прыёмнай рэдакцыі — 2-11-69, мясцовай друкарні — 2-31-55.





**Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы Н.Абжыгалава.**

**Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова (вул. Першамайская, 70, тэл. 25-28-05). Аб'ём — адзін друкаваны аркуш.**

**Зак. 44. Тыраж 1790 экз. Індэкс 64078. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання N 286.**

**Выдавец — аддзел па друку Магілёўскага аблвыканкама**

**Газета падпісана да друку ў 17. 00 6.06.2000 г.**